*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ... зняць у Мінску кватэру

**Бадай, адной з самых балючых праблем нашай эканомікі з'яўляецца будаўніцтва жылля. Калі раней, нават прастаяўшы ў чарзе дзесяць або больш гадоў, усё ж нарэшце (не сабе, дык дзецям) можна было атрымаць кватэру, дык цяпер аб такой роскошы не прыходзіцца нават марыць. Таму многім не адбыўшымся навасёлам прыходзіцца (з той ці іншай жыццёвай нагоды) здымаць пакой або кватэру.**

Сёння, да ведама, гэта не ўяўляе ніякай праблемы: літаральна кожная газета стракаціць «здам... здам... здам». У цэнтры, на ўскрайку, у прыватным сектары, з усімі выгодамі, на дзень альбо на некалькі гадоў.

Калі вы вырашылі знайсці сабе прытулак праз адну з такіх аб'яў у газеце (праз знаёмых або родных жыллё здымаюць, напэўна, адзінкі), б'юся аб заклад, што з дзесяці вашых тэлефонных званкоў па ўказаным нумары мінімум у палове вы трапіце ў так званыя агенцтвы, якія спецыялізуюцца менавіта на прадастаўленні жылля ўсім жадаючым. Зрэшты, нічога дрэннага ў гэтым няма, за выключэннем таго, што паслугі агенцтва абыдуцца вам у пэўную суму (20–30 долараў). Затое ваш пошук значна спросціцца: з улікам пажаданняў (кошт кватэры, наяўнасць або адсутнасць тэлефона, тэлевізара, халадзільніка, мэблі, цэнтр або ўскраіна і г. д.) для вас падрыхтуюць спіс з 5-6 патэнцыяльных кватэраздатчыкаў.

Цяпер справа за вамі – тэлефануйце гаспадарам, дамаўляйцеся аб сустрэчы, ацэньвайце «апартаменты». Зразумела, спяшацца ў гэтай справе не трэба, але і марудзіць таксама. Справа ў тым, што агенцтва заключае з вамі кантракт на пэўны тэрмін (напрыклад, два тыдні), на працягу якога яно нясе адказнасць перад вамі за пошук жылля. Не сышліся па спісу з гаспадарамі кватэр – прадаставіць новы. Але памятайце: калі не ўкладзяцеся ў вызначаны тэрмін, за наступны зноў прыйдзецца плаціць.

Што тычыцца цэн, то яны самыя розныя: ад сарака (мінімум) долараў за голыя сцены на ўскраіне горада, да некалькіх соцень у месяц за «апартаменты» з усімі выгодамі на праспекце Машэрава. Калі з вас запросяць меншую плату, рыхтуйцеся да перадаплаты за некалькі месяцаў, або нават год (дарэчы, яе могуць запатрабаваць у любым выпадку). Некаторыя патрабуюць аплаты за камунальныя паслугі асобна. Так што падлічыце зберажэнні і – наперад!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*КРЫМІНАЛ*

## РАЗБОЙ У ДОМЕ ПЕНСІЯНЕРКІ

Напісаць у «Звязду» мяне прымусіў дзікі выпадак, што адбыўся ў вёсцы Бялевічы Слуцкага раёна. А здарылася вось што. 10 лютага, прыкладна ў 19 гадзін вечара, былы жыхар г. Нясвіжа, а цяпер в. Бялевічы, п'яны 22-гадовы І. П. (у рэдакцыі ёсць яго дакладнае прозвішча. – **Рэд.**) зайшоў у дом пенсіянеркі Веры Рыгораўны Жыдок, якой 72 гады, і моцна яе збіў. Біў патэльняй, табурэткай, нагамі, а потым абліў ледзяной вадой пры нулявой тэмпературы ў хаце.

Але і на гэтым «візіцёр» не супакоіўся. Усё, што нажыла старая за сваё сціплае жыццё, ён перабіў і пераламаў, у прыватнасці люстэрка, посуд, а бялізну, што выцягнуў з шафы, абліў памыямі. Што трэба было гэтаму вылюдку (інакш яго і не назавеш) у доме беднай і гаротнай жанчыны?

Вестка аб гэтай жорсткасці маланкай абляцела навакольныя вёскі Слуцкага, Салігорскага і Капыльскага раёнаў. Яно зразумела: у вёсках цяпер жывуць пераважна людзі пажылога і старога ўзросту. Затое розных бандзюг, якім нідзе не хочацца жыць і працаваць нармальна, а хочацца толькі тварыць разбой, вельмі шмат. Дзякуй участковаму міліцыянеру Мікалаю Іванавічу Алешку, які выклікаў «хуткую» і адправіў пацярпеўшую ў бальніцу: бачыце, пры выкліку мясцовай «хуткай дапамогі» з в. Лядна там у патрэбны момант не аказалася бензіну.

З двума пераломамі правай рукі і траўмай галавы слуцкія медыкі аказалі ахвяры разбою неадкладную дапамогу, наладжылі на руку гіпс. Ледзь жывую жанчыну адправілі дамоў, дзе ёй няма каму нават падаць вады. А вось бандыт тым часам застаецца на волі. Чаму ён не пакараны? А можа, гэты вылюдак утойваецца дзеля «галачкі»: маўляў, здарэнняў няма.

**Таісія ДРОБАВА.**

*г. Салігорск.*

**АД РЭДАКЦЫІ**

**Перш чым рыхтаваць гэта пісьмо да друку, мы звязаліся па тэлефоне са Слуцкім раённым аддзелам міліцыі. Начальнік аддзялення бяспекі і прафілактыкі Леанід Антонавіч Лешчанка пацвердзіў, што факт такі сапраўды быў. На пытанне, чаму бандыт за свае разбойныя дзеянні не панёс ніякага пакарання, пачуўся даволі дзіўны адказ. Маўляў, хуліган не затрыманы таму, што спазніліся... з афармленнем дакументаў. Аднак яны ўжо перададзены следству, і, калі віна будзе даказана, налётчык атрымае па заслугах.**

**Напэўна, так яно і будзе. Праўда, нельга не пагадзіцца і з нашай чытачкай, якая выказвае слушнае меркаванне: пакуль бандыт не пакараны, хто можа даць гарантыю, што яго ахвярамі не стануць і іншыя нявінныя людзі?**

*ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ*

## СТРОГА ЗАХОЎВАЦЬ ТЭРМІНЫ РАЗЛІКУ ПРЫ ЗВАЛЬНЕННІ – АБАВЯЗКОВАЕ ПАТРАБАВАННЕ ЗАКОНА І АБАВЯЗАК НАЙМАЛЬНІКА

*У артыкуле 99 КЗаП Рэспублікі Беларусь запісана: «Пры затрымцы выдачы працоўнай кніжкі па віне наймальніка работніку выплачваецца сярэдні заработак за ўвесь час вымушанага прагулу». Але нічога не сказана пра затрымку выплаты разліку пры звальненні.*

*Калі пры звальненні работніку ў дзень яго звальнення выдадзена працоўная кніжка, але не зроблены з ім поўны разлік з-за адсутнасці на разліковым рахунку сродкаў (што вельмі часта здараецца), дык ці мае права звольнены работнік патрабаваць ад наймальніка выплаты разліку за ўвесь час затрымкі?*

**А. ВАШКЕВІЧ,**
**гор. Гродна.**

Адразу трэба сказаць, што Вы не зусім маеце рацыю, сцвярджаючы, што ў Кодэксе законаў аб працы Рэспублікі Беларусь «... нічога не сказана пра затрымку выплаты разліку пры звальненні».

Тэрміны разліку пры звальненні прадугледжаны артыкулам 98 КЗаП Рэспублікі Беларусь.

Згодна з гэтым артыкулам пры звальненні работніка выплата ўсіх сум, што належаць яму ад наймальніка, робіцца ў дзень звальнення. Калі работнік у дзень звальнення не працаваў, дык адпаведныя сумы павінны быць выплачаны не пазней чым на наступны дзень пасля прад'яўлення ім патрабавання аб разліку.

У выпадку спрэчкі аб памерах сум, што належаць работніку пры звальненні, наймальнік, ва ўсякім разе, абавязаны ва ўказаны тэрмін выплаціць не аспрэчваемую ім суму.

У выпадку нявыплаты па віне наймальніка належных звольненаму работніку сум работнік мае права спагнаць з наймальніка сярэдні заработак за кожны дзень пратэрміноўкі.

Апошняй (трэцяй) часткай памянёны артыкул КЗаП быў дапоўнены Законам Рэспублікі Беларусь ад 2 лютага 1994 года «Аб унясенні змен і дапаўненняў у Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь».

Таму, калі са звальняемым работнікам своечасова не быў зроблены па віне наймальніка поўны разлік, работнік мае права патрабаваць, а наймальнік абавязаны выплаціць яму сярэдні заработак за кожны дзень пратэрміноўкі. Калі ж патрабаванне работніка па гэтым пытанні наймальнікам не выконваецца, дык работніку варта неадкладна, але не пазней чым у трохмесячны тэрмін, звярнуцца з пісьмовай заявай у камісію па працоўных спрэчках таго прадпрыемства, дзе ён раней працаваў, з просьбай спагнаць на яго карысць сярэдні заработак за кожны дзень пратэрміноўкі не выплачаных па віне наймальніка належных яму сум.

У выпадку неабгрунтаванага адхілення камісіяй па працоўных спрэчках просьбы работніка ён можа ў дзесяцідзённы тэрмін абскардзіць яе рашэнне ў раённы суд. Калі на прадпрыемстве камісія па працоўных спрэчках не створана ці камісія не разгледзела заяву работніка ва ўстаноўлены законам дзесяцідзённы тэрмін, ён мае права звярнуцца з заявай непасрэдна ў суд. Пропуск указаных тэрмінаў не з'яўляецца падставай да адмовы ў прыёме заяў. Пры пропуску па ўважлівых прычынах тэрмінаў, устаноўленых законам, яны могуць быць адноўлены камісіяй па працоўных спрэчках ці судом.

**Віктар ДАМАШЭВІЧ,**
**галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзела Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.**

## ПРАПАНУЕЦЦА НОВАЯ СІСТЭМА САЦЫЯЛЬНАГА СТРАХАВАННЯ

**Праект кодэкса «Аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні» распрацоўваецца ў Міністэрстве сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь.**

– Існуючая сёння ў Беларусі сістэма сацыяльнага страхавання, – лічыць начальнік упраўлення пенсій і дапамог міністэрства Уладзімір Жышкевіч, – даволі featнабаковая, але слаба прыстасаваная да практычных умоў рыначных адносінаў. Прадпрыемствы ўзнікаюць, распадаюцца, і дзяржава ўжо не можа жорстка кантраляваць іх фінансава-гаспадарчую дзейнасць. Таму неабходна новая сістэма ўліку ўкладу кожнага працуючага ў страхавую сістэму. Калі раней грошы пераводзіліся з агульнага фонду заработнай платы, то цяпер неабходна перайсці да індывідуальнага ўліку страхавых узносаў кожнага чалавека. Прычым, улік павінен быць арганізаваны такім чынам, каб сам работнік не быў зацікаўлены ва ўтойванні сваіх даходаў, разумеючы, што чым большы ўзнос ён зробіць цяпер, тым больш атрымае ў выпадку хваробы, страты працаздольнасці з-за траўмы і ў старасці. Мы прапануем перайсці да двухузроўневай сістэмы сацыяльнага страхавання: гэта дзяржаўнае страхаванне і добраахвотнае сацыяльнае страхаванне.

Уладзімір Жышкевіч лічыць, што работа над кодэксам у гэтым годзе будзе даволі складаная: «Дзеючая сістэма сацыяльнага страхавання дастаткова адладжана. І неабходна, не разбураючы яе, паступова рэфарміруючы, перайсці да зусім новай мадэлі, якая будзе адпавядаць рыначным патрабаванням».

На яго думку, работа над кодэксам прадоўжыцца яшчэ каля года, хоць магчыма, што некаторыя палажэнні гэтага дакумента будуць прымацца Вярхоўным Саветам паступова, па меры іх гатоўнасці.



# ФОТАСЛОВА

Яўген ПЯСЕЦКІ

**У тураўскім небе сівер слязісты**
**Калыша званы і ўснежвае птах,**
**Благаславіце ўсе, хто калісьці**
**На гэтай зямлі ўславіў свой шлях.**

**Благаславі, Святы Кірыла,**
**Адкажы – стагоддзямі маўчыш –**
**Дзе адшукаць тваю магілу**
**Каб хоць валошкі пакласці пад крыж?**

**Сёння завея зямлю нашу ўкрыла**
**Пад снегам не бачна – ці крыж, ці пень,**
**Благаславі нас, Святы Кірыла,**
**Дачакацца вясновы дзень.**

**Колькі ў той дзень адшукаць яшчэ мусім**
**Магіл і святых, і грэшных сыноў,**
**Пазабываных на Беларусі**
**Братоў па крыві, па веры братоў.**

**Нашы дзяды не вяртаюцца ў хаты,**
**Дзе іх сляды ў сусвеце шукаць?**
**Столькі гадоў мы знішчалі зацята**
**Ўсё, што адвеку ў памяці свята:**
**Як годна жыць і як паміраць.**

**Не сыдуць сумёты з зямліцы настылай,**
**Пакуль не прыгрэе сонейка ўсцешнае.**
**Мовіць з нябыту Свяціцель Кірыла:**
**– Не адшукаць вам святую магілу,**
**Покуль забыты ў магілах грэшныя.**

## РЭФАРМІРАВАННЕ – НЕ РАЗВАЛ, А ЎДАСКАНАЛЬВАННЕ...

**Менавіта гэта меркаванне было галоўным у рабоце гадавога сходу Акадэміі аграрных навук Беларусі. З дакладам «Асноўныя вынікі навуковых даследаванняў па праграме «Агракомплекс» і прыярытэты на перспектыву» выступіў прэзідэнт Акадэміі аграрных навук акадэмік Віталь Антанюк. Ён грунтоўна прааналізаваў плён дзейнасці навукоўцаў-аграрнікаў.**

Мэтай рэспубліканскай навукова-тэхнічнай праграмы «Агракомплекс» на 1991–1995 гады з'яўлялася распрацоўка прыярытэтных накірункаў навуковых даследаванняў, якія б забяспечылі навукова-тэхнічны прагрэс у айчыннай сельскагаспадарчай вытворчасці. Як і ўсю краіну, навукоўцаў недастаткова фінансавалі з дзяржаўнага бюджэту. Нашы, беларускія лічбы выдзеленых на развіццё навукі сродкаў не ідуць ні ў якое параўнанне з адпаведнымі паказчыкамі ў цывілізаваным свеце. Але ж гэта – выразная прымета часу. Прыблізна тое ж самае могуць сказаць і астатнія бюджэтнікі. Таму прыемна заўважаць набыткі, кошт якіх у сённяшніх умовах на шмат большы, чым затрачаныя на іх стварэнне матэрыяльныя выдаткі.

У састаў навукова-тэхнічнай праграмы «Агракомплекс» уваходзяць 22 галіновыя праграмы, якія прадугледжвалі выкананне 353 заданняў. 350 з іх выканана ў поўным аб'ёме. Вучоныя мяркуюць, што многія іх дасягненні павінны прынесці плён.

Заслугоўвае ўвагі і вынайдзеная сістэма энергазберагальнай апрацоўкі глебы. Дзякуючы ўкараненню гэтай сістэмы можна знізіць затраты энергіі на 42 працэнты, а затраты паліва – у 2,5 раза. Чым не актуальны на сённяшні дзень клопат? Увогуле, шмат што з агучанага ў дакладзе акадэміка В. Антанюка ўражвае. Сведчаннем таго, што навукоўцы-аграрнікі ў апошнія гады не спалі ў шапку, з'яўляюцца многія і многія вартыя ўвагі практыкаў праекты, адкрыцці, вынаходкі.

Генетычны патэнцыял малочнай жывёлы рэспублікі даведзены да 7 тысяч кг малака ад каровы ў год. Пра розніцу з тымі каровамі, што «заліваюць» Беларусь малочнымі рэкамі, і гаварыць не даводзіцца. Дасягнуты і мэтавы стандарт для буйной белай і беларускай мясной парод свіней, пры якім прыплод – да 11-12 парасят. А жывую вагу ў 100 кг гэткія свінні могуць набраць за 175–180 дзён. Такога і на ўласным падворку, кормячы свіней з лыжачкі ды малаком іх частуючы, наўрад ці дабешся.

Праблемы – у адрыве практычных рэалій ад навукі. Адзін з выступаючых спаслаўся на тое, што ў калгасе насенную бульбу адмаўляюцца купляць па 4 тысячы рублёў за кілаграм. Маўляў, дорага. Можна звычайную набыць і за 3 тысячы. Справа, відаць, не толькі ў фінансавых магчымасцях, але і ў самой псіхалогіі вытворцаў. Чаму б не падлічыць, якую розніцу ва ўраджаі прынесла б тая бульба, цана якой усяго толькі на 1 тысячу рублёў большая?

Адзначаючы, што нашу беларускую сельскагаспадарчую навуку ведаюць у свеце, па кнігах нашых прафесараў, акадэмікаў вучацца, першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі Дзмітрый Руцкі ўсё ж звярнуў увагу на многія праблемы, вырашаць якія павінны і самі навукоўцы. Удзел у агульным сходзе прынялі і госці з Расіі і Літвы. Першы віцэ-прэзідэнт Расійскай акадэміі сельскагаспадарчых навук Аляксандр Каштанаў расказаў пра сітуацыю з аграрнай навукай у Расіі. Член сейма Літвы Антанас Будвіціс, які з'яўляецца і акадэмікам Расійскай акадэміі сельскагаспадарчых навук, аналізуючы сённяшні характар дзеяння сельскагаспадарчых механізмаў, заўважыў, што многае залежыць ад людзей дзейных, энергічных, рухавых, здольных думаць і працаваць. Пры гэтым значнасць чалавечага фактара, тую ісціну, што не атрымліваецца ў тых, хто нічога не робіць, літоўскі госць вызначыў адметным афарызмам: «Надзея – маці дурняў».

Прыняў удзел у рабоце агульнага сходу і выступіў з грунтоўным дакладам Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі, прадстаўлены як член-карэспандэнт Акадэміі аграрных навук. Шмат месца ў сваім дакладзе «Асноўныя накірункі рэфарміравання аграпрамысловага комплексу» спадар Шарэцкі прысвяціў пытанню пошукаў шляхоў выхаду з крызісу. Старшыня парламента адзначыў, што неабходна вызначыцца ўвогуле з задачай, куды мы ідзём, па якім праекце будзем будаваць дзяржаву, фарміраваць грамадскія адносіны. У прыватнасці, зазначыў С. Шарэцкі, няправільным пунктам гледжання з'яўляецца тое, калі лічаць, што падняць сельскую гаспадарку можна абапіраючыся на пад'ём усяе эканомікі. Павінна адбыцца наадварот: сельская гаспадарка, нармальна дзеючы аграпрамысловы комплекс павінны, могуць вывесці з крызісу эканоміку. У заключэнне свайго выступлення кіраўнік парламента выказаў прапанову звярнуцца да дзяржаў былога СССР з ідэяй стварэння асацыяцыі аграрных, сельскагаспадарчых акадэмій краін СНД.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*НА СВАЕ ВОЧЫ*

# «03» ВЫКЛІКАЛІ?

## ці Адзін дзень, праведзены з брыгадай «хуткай дапамогі»

***НЯШМАТ знойдзецца на свеце людзей, здольных пахваліцца моцным здароўем. Але, напэўна, кожнаму з нас хоць раз у жыцці даводзілася званіць па «03», каб выклікаць «хуткую дапамогу» калі не сабе, дык блізкаму чалавеку, сябру, суседу ці проста незнаёмцу. Пасля размовы з дыспетчарам наступае пакутлівае чаканне прыезду ўрача. Табе здаецца, што ўрач безнадзейна спазняецца. У такія моманты звычайна нядобрым словам успамінаеш не толькі «хуткую дапамогу», але і ўсю сістэму аховы здароўя. Аднак калі на парозе з'яўляюцца людзі ў белых халатах, усё забываецца і ты цалкам аддаеш сябе ў рукі ўрачоў.***

Але хто-небудзь калі-небудзь задаваўся пытаннем, а хто яны, гэтыя людзі ў белых халатах, і што стаіць за іх штодзённай працай? Каб убачыць гэты адваротны бок медаля, я вырашыла правесці адзін рабочы дзень з брыгадай «хуткай дапамогі». Атрымаўшы «дабро» галоўнага ўрача гэтага «ведамства» Віталя Ціцішына, з раніцы адправілася на «працу».

### «Хуткая дапамога»: прафесія ці прызванне?

Не магу сказаць, што сустрэлі мяне з абдымкамі. Нават адчула нейкую насцярожанасць. Хоць мне і было прапанавана самой выбраць брыгаду. Ад работы са спецбрыгадамі (да іх належаць, напрыклад, кардыялагічная, рэанімацыйная, неўралагічная і г.д.) я свядома адмовілася. Не спрачаюся, што, відаць, страціла многае ў сэнсе ўражанняў, але, прызнаюся, праследавала крыху іншыя мэты, таму выбар спыніла на радавой лінейнай брыгадзе (а іх на «хуткай» большасць), якая выязджае на самыя розныя выклікі – ад галаўнога болю да смяротных зыходаў. У сваім матэрыяле я свядома не стану называць нумар падстанцыі (у г. Мінску іх налічваецца 8) і сапраўдныя імёны людзей, якія згадзіліся ўзяць мяне «на хвост». Падкрэсліваю: я апісваю тыповую штодзённую работу самай звычайнай брыгады «хуткай дапамогі».

Толькі паспела пазнаёміцца з фельчаркай Ленай, як урач Мікалай (іх тут прынята называць «доктар») паведаміў, што час адпраўляцца на выклік. Па дарозе забіраем дзвюх дзяўчат, што вяртаюцца з дзяжурства (каб падкінуць іх бліжэй да прыпынку грамадскага транспарту). Дзяўчаты са смехам расказваюць, што ў іх за ноч былі толькі чатыры выезды, затое давялося наведваць такія прытоны, што ледзь ногі адтуль вынеслі. Яны да гэтага прызвычаіліся: дзве жанчыны ўначы пераступаюць парог чужога дома (хто ведае, да каго ты трапіш), нічым не абароненыя, акрамя ўласнай вытрымкі і самавалодання.

Першы візіт мы наносім 54-гадовай жанчыне, якая страціла прытомнасць. Доктар пасля агляду ставіць дыягназ «вертыбрабазілярная недастатковасць». Ёй робяць укол, кажуць, што неабходны спакой, і мы развітваемся.

Не паспяваем сесці ў машыну, як нам па рацыі даюць новы адрас. На шляху туды звяртаю ўвагу на «ўнутранасць» медыцынскага «РАФа». Трэба сказаць, выгляд ён мае вельмі «бледны», які ніяк не адпавядае маім уяўленням аб утульнасці і стэрыльнасці: жудасныя насілкі, на якія я пагрэбавала б легчы (за выключэннем выпадку, калі была б ужо не ў стане рэагаваць на такія «дробязі»), аблезлыя ад старасці (магу меркаваць толькі аб знешнім выглядзе) медыцынскія прыборы, якія, дарэчы, як мяне запэўнілі, усё ж дзейнічаюць (хоць пазней я пераканалася, што электракардыёграф барахліць), брудныя фіранкі. Дадайце да гэтага трасяніну пры яздзе (калі літаральна рассыпаешся), холад у салоне зімой (па сакрэту мне паведамілі, што салон ацяпляўся толькі дзеля мяне) – і вы зразумееце, наколькі «прыемна» працаваць у такой машыне 12 гадзін, а то і цэлыя суткі. Рухаецца гэты «РАФік» па горадзе са скорасцю 40 км у гадзіну, што ніяк не стасуецца з уяўленнем аб хуткай дапамозе. Машына затрымліваецца ў дарожных пробках, і ні чырвоныя крыжы на ёй, ні ўключаная сірэна не даюць гарантый, што нехта саступіць «хуткай дапамозе» дарогу.

***За два апошнія гады ў аўтапарку «хуткай» заменены 50 аўтамабіляў. Цяпер тут ёсць два «Форды» і два «Мерседэсы». Аднак, нягледзячы на выдатныя якасці рэанемабіля, які адпавядае сусветнаму ўзроўню, для Мінска неабходна мець сама меней яшчэ тры такія машыны. А для забеспячэння нармальнай работы ўсіх падстанцый трэба змяніць 30–40 аўтамашын. У гэтым годзе чакаецца, што Англія прадаставіць Беларусі ў якасці гуманітарнай дапамогі 36 машын, якія эксплуатаваліся 6 гадоў, 11 з іх плануецца «аддаць» Мінску. А на сённяшні дзень «хуткая» камплектуецца ў асноўным латвійскімі «РАФамі», толькі для сельскай «хуткай дапамогі» пастаўляюцца ульянаўскія машыны. Вялізныя надзеі ўскладаюць медыкі на беларускія прадпрыемствы, здольныя выраблядь машыны з меншым сабекоштам. Так, у Жодзіне ўжо выпушчаны дзве машыны для «хуткай».***

Наведваем сямідзесяцігадовую жанчыну з паўторным інсультам. На пошукі неабходнай кватэры ў нас пайшло шмат лішняга часу, таму што дыспетчарскай няправільна быў перададзены нумар яе кватэры. Аказаўшы першую дапамогу, мы выклікаем туды неўралагічную брыгаду, а самі накіроўваемся на чарговы выклік.

На лесвіцы Мікалай прапаноўвае Лене ўзяць у яе яе медыцынскую сумку (між іншым, гэты саквояж з медыкаментамі такі цяжкі, што я хутка адмовілася ад жадання раздзяліць гэты лёс з нашай фельчаркай і насіла для прыстойнасці нейкія паперкі, накшталт медыцынскіх картаў), а калі яшчэ ўлічыць, што цягаць яго даводзіцца цэлы дзень, прычым далёка не ў кожным доме ёсць ліфт, дык хутка пачынаеш спачуваць кволым жанчынам. Лена жартаўліва адмаўляецца: «Сёння ў нас паўдоктара, і яго трэба берагчы». Наш бедны эскулап быў даволі абмежаваны ў рухах па прычыне прыхапіўшага яго радыкуліту.

Далей мы наведалі 78-гадовую бабулю з гіпертанічнай хваробай. Візіт гэты запомніўся мне асабліва. Маленькая кватэрка бабулькі выглядала акуратненька і была вельмі чысценькая. Яна так адрознівалася ад усіх іншых, убачаных мной у гэты дзень (брудных, неприбраных), што я міжволі стала паважаць гэтага незнаёмага старога чалавека, які, нягледзячы на хваробу, не апускаецца. Як мне расказалі, часта бываюць такія візіты, калі агідна зайсці ў ванны пакой, сесці на крэсла і нават дакрануцца да чалавека. Але гэта, на жаль, таксама доля ўрачоў.

Потым было яшчэ некалькі выклікаў да людзей, якія скардзіліся на крывяны ціск. Можа таму, што быў пахмурны дзень – з ліку тых, што медыкі звычайна называюць «неспрыяльнымі ў геафізічным плане».

Паступіў сігнал, што на Камароўскім рынку ляжыць мужчына. Звычайна ў такім выпадку медыкам прыходзіцца выцягваць са снегу нейкага алкаголіка і везці яго ў бальніцу, хоць самае прыдатнае для яго месца – выцвярэзнік. Тое ж датычыцца і бамжоў, перавозкай якіх «хуткай» даводзіцца займацца даволі часта. Вы можаце папракнуць мяне ў бяздушнасці, але паспрабуйце ўявіць сабе, што менавіта вам патрэбна дапамога ўрача, а ён у гэты час займаецца аказаннем дапамогі менавіта такому «хвораму». Таму не спяшайцеся з папрокамі ў адрас урачоў, не думайце, што ў іх адсутнічае міласэрнасць. Нам «не пашанцавала»: пакуль мы даехалі, другая брыгада, што праязджала міма, ужо падабрала нашага пацыента.

### Гаваркі «кэгэбіст»

Мы едзем на вул. К. Маркса, куды нас выклікалі да мужчыны з разбітай галавой. Перада мной паўстала вельмі непрывабная карціна: на кухні сядзяць трое мужчын, адзін з іх у залітай крывёй кашулі і майцы. Аказалася, што чацвёра сабутэльнікаў выпілі, двое з іх пасварыліся. У суседнім пакоі, на парозе, заліты крывёю, ляжыць чалавек. Садзім пацярпеўшага ў крэсла. Ён паведамляе, што працаваў у КДБ, а потым – што ў расійскім МУС. Жыве то ў Кунцаўшчыне, то на вул. Сурганава.

Сітуацыя асабліва засмучае Лену, таму што ёй даводзіцца перавязваць пацярпеўшаму галаву, але ўся бяда ў тым, што ўжо нейкі час на «хуткай» адсутнічаюць гумавыя пальчаткі. Як мяне запэўніў потым галоўурач, гэта з'ява часовая. І ўсё ж медыкі рызыкуюць сёння падчапіць якую-небудзь заразу. Запэўніванні ў тым, што хутка з цэнтральных аптэчных складоў павінны паступіць такія неабходныя ім пальчаткі, для іх слабае суцяшэнне.) Мікалай мужна бярэ на сябе гэтую «брудную» работу. Адвозім нашага пацыента ў ваенны шпіталь, але там нашага «кэгэбіста» не прымаюць. Паўстае пытанне, куды яго везці, не ведаючы дакладнага месца жыхарства. Мы цудоўна разумеем, што калі ў прыёмным пакоі любой з бальніц ён пачне паўтараць сваю версію пра Кунцаўшчыну, нас адтуль хуценька адправяць. Шкадуючы, што пацыент у нас «гаваркі» (было б лепш, калі б ён маўчаў), адважваемся рызыкнуць і «падкінуць» яго ў 2-ю бальніцу. Авантура ўдалася, і, пакуль там не разабраліся што да чаго, мы ад'язджаем.

Глядзім на гадзіннік – 14.30 – з палёгкай робім запыт на «дабро» на абед і вяртаемся на падстанцыю.

### У каго не баліць галава?

Маё з'яўленне за абедзенным сталом не застаецца незаўважаным (персанал даведаўся, што я не стажор, а карэспандэнт). Выслухоўваю скаргі на дрэнныя пад'язныя дарогі да станцыі (і на самай справе, я неаднаразова трапляла нагамі ў сумёт, калі выходзіла з машыны), на недахват пасцельных месцаў у фельчарскай, ну, і вядома ж, на зарплату.

***Дарэчы, я трапіла якраз у свяшчэнны дзень авансу, таму даведалася, колькі атрымліваюць на «хуткай».***

***Месячная заработная плата фельчара без катэгорыі складае сёння 491 тыс. руб., вышэйшай катэгорыі – 601.700 руб., урача без катэгорыі і вышэйшай катэгорыі – адпаведна 661.000 і 788.900 рублёў. 20 тыс. руб. даплачваецца за вызны характар работы. За кожную гадзіну начнога дзяжурства даплачваецца па 3 тыс. рублёў. Таксама да стаўкі плаціцца надбаўка за няспынны стаж работы: больш як тры гады фельчару – 60 тыс. рублёў і ўрачу – 70 тыс. рублёў, звыш 7 гадоў – адпаведна 180 і 210 тыс. рублёў. Псіхбрыгадзе за шкоднасць даплачваюць яшчэ 240 тыс. рублёў. Таму зразумела, чаму большасць працуючых на «хуткай дапамозе» імкнецца браць нагрузку на паўтары стаўкі. Фельчарамі «хуткая» ўкамплектавана на 100 працэнтаў, а вось урачамі – толькі на 60. На сённяшні дзень ёй патрэбны яшчэ 30–40 урачоў. Дэфіцыт іх пераадольваецца шляхам павелічэння нагрузкі на наяўныя кадры (1,5 стаўкі), выканання абавязкаў урача высакакласнымі фельчарамі (в.а. урача) і падпрацоўкамі на «хуткай» урачоў з іншых медыцынскіх установ.***

На абед работнікам «хуткай» адводзіцца паўгадзіны. Мы зноў у машыне. Трасе так, што жартуем: «У нас было паўдоктара, стане яшчэ і паўфельчара». Жанчыну на вул. Сурганава мы зноў не паспяваем падабраць: яе павезлі да нашага з'яўлення на спадарожнай машыне. Потым пачынаюцца візіты да хворых з галаўнымі болямі. Як мне растлумачылі, раней існавалі хуткая і неадкладная дапамога пры паліклініках. Выклікі з прычыны галаўнога болю, ціску і г.д. прызначаліся менавіта для неадкладнай дапамогі, але там яны «захрасалі», бывала, аж на 8 гадзін. Гэта тлумачылася і адсутнасцю аўтамабіляў, і іх дрэнным тэхнічным станам. Сёння на экстранныя выклікі (аварыі, атручэнні, сардэчныя прыступы) машына вязджае на працягу 4 хвілін з моманту паступлення сігналу. Працэнтнасць выездаў у такіх выпадках – 99,7. Выкліканай «неадкладнай дапамогі» ў гэтых абставінах чакаюць на працягу гадзіны, а то і больш. Напрыклад, прыехаўшы ў прыватны сектар, мы забуксавалі. Далей пайшлі пешшу. Не паспелі мы пераступіць парог, як нам паведамілі, што чакаюць нас ужо дзве гадзіны. На жаль, не ўсе разумеюць, што галаўны боль не заўсёды з'яўляецца дастаткова сур'ёзнай падставай для таго, каб ганяць «хуткую», асабліва ўдзень, калі працуюць паліклініка і ўчастковы ўрач. Відаць, лягчэй набраць знаёмае «03» і чакаць, чым самому ісці да ўрача. Вельмі часта ў «хуткую» звяртаюцца адзінокія старыя, якім проста няма з кім пагаварыць. Асабліва адзінота напамінае аб сабе начамі, і тэрмінова «неабходна» «хуткая дапамога». Так, толькі адна старая за месяц 30 (!) разоў выклікала «хуткую» па «03». Я думаю, цяжка асуджаць гэтага чалавека, які не мае магчымасці выйсці з дому, каб купіць сабе хлеба. Але такім людзям неабходны нейкія сацыяльныя службы ці службы міласэрнасці. А сёння, відаць, адзінокая старасць – таксама галаўны боль «хуткай».

***Кругласутачная нагрузка на брыгаду складае 14 візітаў. У снежні 1995 года, у сувязі з эпідэміяй грыпу, яна была павялічана да 16,4. У Мінску працуюць 108 брыгад у зімовы час, 100 – у летні.***

Прабуксаваўшы ў прыватным сектары хвілін 40 (а буксавалі ў гэты дзень мы тройчы, таму няцяжка ўявіць, колькі часу было затрачана ўпустую), нам усё ж, не без пабочнай дапамогі, удаецца адтуль выкараскацца. Таму новы візіт у прыватны сектар, перададзены нам па рацыі, сустракаем дружным воклічам «толькі не гэта». Час набліжаецца да канца дзяжурства. Мы толькі паспяваем адвезці ў бальніцу дзяўчыну з ныркавымі колікамі і ў 19.45 вяртаемся на падстанцыю.

***P.S. На жаль, нельга расказаць пра ўсё пачутае, убачанае, пра тое, што давялося адчуць. Адно я ведаю дакладна: людзі ў белых халатах (а гэта ў асноўным жанчыны), якія працуюць на «хуткай», вельмі стомленыя, але яны любяць сваю прафесію, і ім не менш, чым іх пацыентам, патрэбна міласэрнасць. Таму, дарагія сябры, перш чым набраць «03», падумайце, ці сапраўды вам нельга абысціся без іх. Магчыма, у гэты час ад «хуткай дапамогі» залежыць нечае жыццё.***

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*Кожны дзень – са «Звяздой»!*



**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

